

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 34 (1497) 26 ЖНІЎНЯ 2020 г.**


## Круглы стол - з'ява неабходная

У панядзелак, 17 жніўня, у сядзібе ТБМ адбылося запланаванае паседжанне аргкамітэта па правядзенні Усебеларускага круглага стала. У сваім выступе У. Колас, старшыня Рады інтэлігенцыі, падкрэсліў, што нам нельга выпускаць з-пад увагі заўтрашні дзень. Трэба, каб штодзённыя падзеі прывялі да нечага светлага і добрага. Рада інтэлігенцыі ад пачатку свайго стварэння была накіравана на гэта. Нашы прынцыпы: справядлівасць-дэмакратыя-законнасць. Л. Баршчэўскі падкрэсліў, што Расея не адступілася ад сваіх планаў захапіць Беларусь. Сёння мы не бачым сілы ва ўладзе, з якой можна перамаўляць і дамаўляцца, пакуль творацца беззаконныя рэчы. Рада інтэлігенцыі павінна зараз гуртаваць усю беларускую інтэлігенцыю і фармуляваць кола пытанняў. М. Пастухоў падкрэсліў, што ўсе кажуць пра неабходнасць новых выбараў. Але якім чынам гэта можа адбыцца? Народ нібыта мае свабоду, але дагэтуль за кратамі сядзяць людзі, мала таго, хапаюць на вуліцы новых людзей.

- Я выступаю за скліканне Усебеларускага форума. Найперш павінны прайсці парламенцкія выбары.

Г. Фядыніч выказаўся адназначна пра тое, што сілавікі павінны сысці. У каардынацыйную раду, якая ствараецца па ініцыятыве штаба С. Ціханоўскай, трэба накіраваць кампетэнтных людзей для ўзаемадзеяння. Вельмі добра, што ў Беларусі з'явілася пляцоўка пад патранатам Рады інтэлігенцыі. Яе варта пашыраць. І. Рынкевіч выступіў за тое, каб ад аргкамітэта вылучыць у КР некалькі асоб. Т. Стружэцкі падкрэсліў, што інтэлігенцыі трэба з'ядноўвацца і выступаць скансалідавана. Прапанаваў падумаць пра скліканне Усебеларускага форума ці веча. В. Арэшка адзначыў, што гістарычны досвед ніхто не адмяняў. Роля інтэлігенцыі, як і ў Польшчы ў свой час, аналізаваць і прагназаваць, хто прыйдзе на змену ўладзе, якія людзі.

А. Трусаў зноў выступіў з заклікам не забывацца пра небяспеку захопу Беларусі. Галоўнае - прафсаюзы і страйкамы, інтэлігенцыя павінна быць з ёю ў саюзе. Мы падтрымліваем страйкамы, наш працоўны люд. А. Жучкоў прапанаваў накіраваць у Каардынацыйную Раду некалькі чалавек. У выніку абмеркавання былі прапанаваны наступныя асобы: М. Пастухоў, П. Жук, І. Рынкевіч, Л. Скарабагаты.

***Радыё Рацыя.***

## Заява

### *Жыццё Паўла Латушкі пад пагрозай*

Мы добра ведаем кар'featнага дыпламата, былога міністра культуры і дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, які яшчэ студэнтам уступіў у шэрагі ТБМ.

Пасля таго, як П. Латушка разам з калектывам тэатра выказаў свой пратэст супраць процiпраўных дзеянняў беларускай улады, у выніку якіх былі арыштаваны тысячы мірных грамадзян Беларусі, прычым значная частка з іх была зверскі збітая, а некаторыя загінулі ці прапалі без звестак, ён быў звольнены з пасады дырэктара тэатра. П. Латушка ўвайшоў у склад Каардынацыйнай рады па трансферы ўлады пасля выбараў 9 жніўня 2020 г. Яму пачалі пагражаць, патрабаваць, каб ён з'ехаў з Беларусі і запэцкалі чырвонай фарбай яго дом і гараж.

Мы добра памятаем трагічны лёс віцэ-прэм'ера ўраду Беларусі Віктара Ганчара, міністраў Юрыя Захаранкі, Міхаіла Марыніча, Аляксандра Казуліна, Васіля Лявонава і іншых вядомых людзей, якія выказалі сваю нязгоду з палітыкай сённяшняй улады.Таму мы заклікаем усіх сумленных грамадзян Беларусі выказаць сваю падтрымку Паўлу Латушку і накіраваць свой пратэст супраць яго пераследу ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

*Сакратарыят ТБМ, 20 жніўня.*






## Пад бела-чырвона-белым сцягам фармавалася нацыянальная самасвядомасць беларусаў у XX стагоддзі

*Тысячы беларусаў выходзяць на мірныя акцыі з бела-чырвона-белымі сцягамі. Але ў многіх суайчыннікаў да гэтай сімволікі негатыўнае стаўленне, нягледзячы на тое, што менавіта пад гэтым сцягам Аляксандр Лукашэнка прымаў прысягу як першы прэзідэнт Беларусі. Давайце для аб'ектыўнасці звернемся да гісторыі. У гэтым нам дапаможа Уладзімір Снапкоўскі, доктар гістарычных навук, прафесар кафедры міжнародных адносін БДУ.*



- У часы Вялікага Княства Літоўскага, у 14-15 стагоддзях, сустракаецца першае згадванне бела-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня", што азначала пераслед ворага. Пад гэтым сцягам ваявалі ваяры ВКЛ, выходзіла шляхта ў агульны паход супраць ворага ў 16-17 стагоддзях. Калі бліжэй да сучаснасці, то можна сказаць, што пад гэтым сцягам фармавалася нацыянальная самасвядомасць беларусаў у XX стагоддзі. Аўтарам праекта сцяга лічыцца беларускі грамадска-палітычны дзеяч і архітэктар Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Пытанне пра нацыянальную сімволіку абмяркоўвалася на з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый у Менску ў сакавіку 1917 гады, і менавіта бела-чырвона-белы сцяг стаў атрыбутам Беларусі, якая адраджалася. Першы Усебеларускі з'езд у снежні 1917 года ўжо ўпрыгожвалі бела-чырвона-белы сцяг. А калі ў 1918 годзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, гэты сцяг і герб "Пагоня" сталі нацыянальнымі знакамі БНР. У расійскіх і беларускіх бальшавікоў быў свой чырвоны сцяг. Такім чынам, розныя палітычныя сілы выступалі пад рознымі сцягамі, што было цалкам натуральна.

*- А потым была Вялікая Айчынная вайна, калі бела-чырвона-белы зноў з'явіўся...*

- Так, гэты сцяг выкарыстоўваўся беларускімі калабарантамі з дазволу нямецкай адміністрацыі ў якасці нацыянальнага знака беларускіх арганізацый. Але гэта была прынятая ў той час практыка ва ўсіх акупаваных краінах - выкарыстоўваць нацыянальныя мясцовыя знакі.

*- Чаму ж у нас, мірных беларусаў, спрэчкі вакол бела-чырвона-белага сцяга даходзяць ледзь не да бойкі?*

- Сімволіка ў прынцыпе мае вялікае значэнне ў палітыцы і гісторыі дзяржаўнасці. Таму сцяг, герб і гімн актыўна і шырока выкарыстоўваюцца палітычнымі сіламі ў сваіх палітычных інтарэсах. Гэта мае месца цяпер, ва ўмовах вострага палітычнага крызісу ў Беларусі, які ўзнік пасля абвяшчэння вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 9 жніўня. Мы назіраем, што велізарныя дэманстрацыі прыхільнікаў змен праходзяць з бела-чырвона-белымі сцягамі. Сотні тысяч чалавек. Рэакцыя супернікаў даволі прымітыўная: "Ізноў рэанімуюць гэты сцяг, а пад ім у гады Вялікай Айчыннай вайны выступалі калабаранты". Нагадаю, што, напрыклад, Расійская вызвольная армія Уласава ваявала пад трыкалёрам, які цяпер з'яўляецца дзяржаўным сцягам Расійскай Федэрацыі. Але ў Расіі вакол гэтага пытання няма такіх палітычных дыскусій.

На мой погляд, пытанне пра сцяг у нас празмерна палітызаванае, і ён выступае як знак прыналежнасці да адпаведнай грамадска-палітычнай сілы. Гэты раскол пераадольваецца хутчэй, чым палітычныя рознагалоссі. У наяўнасці тэндэнцыя да прыняцця бела-чырвона-белага сцяга ўсё шырэйшым спектрам беларускага грамадства, паколькі яна адлюстроўвае глыбокія векавыя спадзевы беларускага народа да волі і незалежнасці.

*- У 1991-95 гадах бела-чырвона-белы сцяг быў у нас дзяржаўным. Потым на рэферэндуме вырашылі ад яго адмовіцца. Але яго ж не забаранілі...*

- Не. Але і не вельмі заахвочваецца яго выкарыстанне ў шырокім ужытку. У 2016 годзе шэраг беларускіх моладзевых арганізацый звярнуўся ў Міністэрства культуры з запытам пра наданне бела-чырвона-беламу сцягу статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці. Але дагэтуль пытанне не вырашана. Гербу "Пагоня" пашанцавала больш - ён занесены ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны.

**ДАРЭЧЫ**

З нагоды выбару бела-чырвона-белага спалучэння колераў для сцяга ёсць розныя версіі. Напрыклад, легенда пра тое, што вяр ВКЛ перавязаў рану белай тканінай, на якой пратачылася кроў - і гэта стала нацыянальным знакам. Таксама вядома, што бела-чырвоная гама традыцыйна пераважае ў нацыянальным беларускім тэкстылі. Але больш праўдападобнай выглядае ўсё ж версія, што сцяг - вытворнае ад герба, схематычная перадача яго колераў. У дадзеным выпадку гэта герб "Пагоня" Вялікага Княства Літоўскага, аснову якога на працягу некалькіх стагоддзяў склалі беларускія землі.



***Раіса Юдзіна.***
***Фота: Паўла Мартынчыка.***
***kp.by.***

*Насустрач чарговаму з'езду ТБМ*

# Толькі адзіная дзяржаўная беларуская мова - галоўны гарант рэальнага суверэнітэту Беларусі

Пад такім лозунгам рэкамендую дружнай ТБМ-кай грамадой ісці да чарговага з'езда ТБМ. Прашу і рэкамендую гэтую праблему лічыць галоўнай у перадз'ездаўскай дыскусіі і практычнай паўсядзённай нашай працы. Веру, што дэлегаты з'езда ўключаць гэтае пытанне-праблему ў парадак дня і аб'яваць гэтую праблему галоўнай стратэгіяй дзейнасці ТБМ. Для актывізацыі перадз'ездаўскай дыскусіі прапаную для чытачоў "Нашага слова" сціслае абгрунтаванне. Спадзяюся, што чытачы пашыраць і паглыбяць гэтую агульнанацыянальную і лёсавызначальную праблему беларусаў.

На двары XXI стагоддзе, а мы беларусы на сваёй гістарычнай і этнічнай радзіме працягваюць жыць ва ўмовах чужога інфармацыйнага асяроддзя, якое прымусова было навязанае нам знешнімі сіламі некалькі стагоддзяў таму. Трагедыя апошняй чвэрткі стагоддзя: першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь праводзіць у сваёй дзяржаве моўную палітыку, якая прывяла да мяжы, за якой пачынаецца працэс актыўнага памірання беларускай мовы. Гісторыя сведчыць: з паміраннем роднай (этнічнай) мовы памірае і нацыя.

Родная (этнічная) мова любой нацыі ёсць яе самая вялікая сакральная каштоўнасць, гарант поўнага, рэальнага суверэнітэту. Беларуская мова - душа беларуса, глеба, падмурак для фармавання, росту нацыянальнай свядомасці і годнасці. Родная мова ёсць ні з чым непараўнальным духоўным набыткам. Яе, як родную маці, трэба абараняць, шанаваць, быць гатовым нават ахвяраваць сваім жыццём, каб толькі не даць памерці гэтаму неацэннаму нацыянальнаму багаццю.

Сёння стан першай дзяржаўнай мовы замацаванай Канстытуцыяй - мовы беларускай - інакш нельга назваць, як катастрафічным з-за ні чым неабгрунтаванага валюнтарысцкага ўвядзення афіцыйнага двухмоўя. Здзейснена вялікае злачынства: прыняты дзяржавай ў 1990 годзе прагрэсіўны Закон аб адзінай дзяржаўнай мове ў Беларусі дзейнічаў толькі няпоўныя 5 гадоў. Праведзенымі ў траўні 1995 і ў лістападзе 1996 г. рэферэндумамі Прэзідэнт арганізаваў сённяшнюю катастрафічную сітуацыю ў моўнай сферы, свядома пазбавіў беларускае слова магчымасці быць запатрабаваным як у афіцыйным, так і грамадскім жыцці. Яно амаль у поўным аб'ёме абслугоўваецца нярodнай рускай мовай, што пазітыўна ўплывае на імклівую татальную русіфікацыю нашай Бацькаўшчыны. У выніку на сваёй гістарычнай зямлі беларусы засталіся фактычна не толькі без сваёй роднай мовы, але і без самабытнай нацыянальнай культуры, і жывуць у сфальсіфікаванай гісторыі. Мова і культура карэннага этнасу ўсіх краін свету нязменна належаць да найважнейшых стратэгічных складнікаў нацыянальных інтарэсаў дзяржавы.

Адзіную у нас беларускую дзяржаўную мову неабходна мэтанакіравана спяліць, вызваляць ад шкодных наступстваў русіфікацыі мінулых гадоў. Прэзідэнцкая ўлада гэтага не рабіла, што прывяло да сапраўднай нацыянальнай трагедыі беларусаў: яны, як ніколі да гэтага амаль спрэс "анямелі" ў роднай мове, што ёсць нацыянальнай катастрофай. Беларус, які пазбаўлены свайго роднага беларускамоўнага асяроддзя становіцца абыякавым да сваёй нацыянальнай дзяржаўнасці. Цешымся таму, што і ў ва ўмовах татальнай русіфікацыі беларуская нацыя выспявае і паднялася ў нашы дні на самаахвярную барацьбу за выбар свайго далейшага цывілізаванага развіцця.

Каб выйсці беларускаму народу з моўнага і культурнага лінгвацыду і не быць цмянай копіяй Расіі, да чаго прывяла сучасная антынацыянальная палітыка Прэзідэнцкай вертыкалі першачарговай на сёння задачай ёсць барацьба за беларускую мову як адзіную дзяржаўную мову ў Рэспубліцы Беларусь. Нагадаю: у Расейскай Федэрацыі і ва ўсіх створаных на пастсавецкай прасторы краінах дзяржаўнай мовай з'яўляецца толькі адна мова - мова карэннага этнасу. Мова - душа Народа. Вярнуць беларусам іх родную мову ва ўсе сферы жыццядзейнасці грамадства ёсць самы высокі патрыятычны абавязак сумленнага і адказнага беларуса-патрыёта. Як ні цяжка прызнаць: ва ўмовах антынацыянальнай, антыбеларускай палітыкі Прэзідэнта ў моўна-культурнай сферы Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны не здолела заняць нацыянальна-патрыятычную пазіцыю па абароне беларускай мовы на яе гістарычнай Бацькаўшчыне, адэкватную пазіцыю неадкладна карэнным чынам выправіць моўную сітуацыю ў Беларусі. Мы, у тым ліку і аўтар гэтага артыкула, не саспелі нават для змагання за аднаўлення дзейнасці гістарычных па сваім значэнні законаў аб мовах, прынятых дэпутатамі БССР. Гэта "Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Аб мовах у Беларускай ССР" (26 студзеня 1990 г.), "Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Аб парадку ўвядзення ў дзеянне закона Беларускай СССР Аб мовах у Беларускай ССР" (26 студзеня 1990 г.) і "Закон Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі Беларускай ССР"(26 студзеня 1990 г.);

альбо за новы Закон аб статусе адзінай дзяржаўнай мовы - беларускай.

Мы, асабліва лібералы, паступова самі адмовіліся ад закладзенай Нілам Гілевічам педагагічнай сістэмы: разам з адпаведнымі дзяржаўнымі ўстановамі сістэмна і мэтанакіравана весці сярод народа глыбока прадуманую асветніцкую работу пра выключную ролю яго роднай мовы для захавання асабістай этнакультурнай ідэнтычнасці і сваёй гістарычнай краіны, так і для абароны, умацавання яе палітычнага суверэнітэту. Народ павінен мець цвёрдае перакананне, што панаванне рускай мовы ў сучаснай Беларусі, гэта не наша гістарычная непазбежнасць, не добраахвотны выбар рускай мовы, а вынік свядомай, сістэмнай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі на працягу больш, чым двух стагоддзяў, ад якой, на вялікі жаль, Прэзідэнцкая вертыкаль і А. Лукашэнка не адышлі і, як сведчыць сённяшняя жыццёвая сітуацыя, не зменяць сваю пазіцыю да свайго зыходу. Спынім лінгвацыд беларускай нацыі!

Прафесар, дэлегат на 14-ы з'езд ад Менскай гарадской арганізацыі ТБМ

*Мікола Савіцкі.*
*21.08.2020 г.*

# Спыніць спробы расколу беларускага грамадства

*Заява ГА "Саюз беларускіх пісьменікаў" і Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"*







У апошні час усё часцей з боку ўладных структур Беларусі на самым высокім узроўні мы чуем запалохванні ў тым, што сёлетні мірны пратэст за справядлівыя выбары адною са сваіх мэтаў мае гвалтоўнае насаджэнне бел-чырвона-белага сцяга і беларусізацыю, як уціск рускамоўнага насельніцтва. Такім чынам улады хочуць адцягнуць увагу ад наяўных праблем і патрабаванняў грамадзян правесці новыя справядлівыя і празрыстыя выбары прэзідэнта краіны і прыцягнуць да адказнасці ўсіх вінаватых у гвалце над сваім народам.

Больш за тое, чым часцей гучаць такія заявы, тым больш нарастае ўпэўненасць, што ўлады спрабуюць правесці прапагандысцкі раскол у беларускім грамадстве, - так, як гэта было ва Украіне зусім нядаўна. Навязваючы і распаўсюджваючы ілжывую інфармацыю, улады імкнуцца пасеяць варажнечу сярод удзельнікаў мірнага пратэсту, а таксама, што найбольш важна, паказаць вонкавым назіральнікам, у першую чаргу - расійскім, што ў Беларусі на дадзены момант існуе неабходнасць у актыўным умяшальніцтве ва ўнутраныя справы, у тым ліку вайсковым.

Мы перакананыя, што нацыянальныя сімвалы Беларусі, бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня", унесены самой уладай у спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў, служаць грамадству толькі дзеля яго яднання і кансалідацыі, што паказваюць і мірныя акцыі пратэсту, дзе нашыя старажытныя сімвалы трывала замацаваліся і актыўна выкарыстоўваюцца ўсімі пакаленнямі дэманстрантаў.

Гэтаксама і беларуская мова служыць толькі мэтам яднання і з'яўляецца бясспрэчнай каштоўнасцю беларускай нацыі.

Мы, Саюз беларускіх пісьменікаў і Згуртаванне "Бацькаўшчына", патрабуем спыніць усякія спробы ўнесці раскол у беларускае грамадства. Лічым, што такія маніпуляцыі з каштоўнасцямі беларускага народа шкодзяць міждзяржаўным стасункам і нясуць пагрозу суверэнітэту нашай краіны.

Менск, 23.08.2020.

# Адкрыты зварот да беларусаў і да войска

Дзевяць народных артыстаў Беларусі, чатырохкратная алімпійская чэмпіёнка Алена Бялова, экс-міністр культуры Павел Латушка, акцёры, пісьменнікі і прадстаўнікі іншых прафесій запісалі адкрыты зварот да беларусаў і да войска:

*"Беларусы, тое, што цяпер адбываецца, немагчыма бачыць і чуць. Нам кажуць, што нас мала, але мы ведаем: нас вельмі многа. І мы бачым, як кожны з нас падтрымлівае адзін аднаго. І прагне перамен. Рабочыя, навукоўцы, артысты, медыкі, кіроўцы, будаўнікі, прадпрымальнікі, юрысты, настаўнікі - мы ўсе патрабуем спыніць беспрэцэдэнтныя акты гвалту, тэрору, здзеку, прыніжэння з боку праваахоўных органаў. Сёння беларусы жорстка катуюць беларусаў, не зважаючы, жанчына гэта, стары чалавек, студэнт ці нават вучань.*

*Мы патрабуем неадкладнай адстаўкі і ўзбуджэння крымінальных спраў супраць тых, хто аддаваў злачынныя загады, і ўсіх службовых асоб, вінаватых ці тых, хто мае дачыненне да гэтых злачынстваў. Немагчыма казаць пра легітымнасць выбарчай кампаніі, якая прайшла ў атмасферы тэрору і страху. Прымаючы пад увагу ўсе парушэнні закону і факты фальсіфікацый, мы патрабуем неадкладнага вызвалення ўсіх палітычный зняволеных і затрыманых на мірных акцыях пратэсту грамадзян, правядзення новых, празрыстых выбараў у адпаведнасці з міжнароднымі нормамі і новым складам ЦВК.*

*Мы звяртаемся да ўзброеных сілаў Рэспублікі Беларусь. Народу, якому вы прысягалі, патрэбная ваша абарона. Апраўдайце гонар звацца ваеннымі, звацца беларусамі, звацца людзьмі. Абараніце свой народ і суверэнітэт Беларусі".*

**Зварот падпісалі 137 чалавек.**

Сярод іх народные артысты Беларусі Зоя Белахвосцік, Міхась Дрынеўскі, Валянцін Дудкевіч, Валерый Іваноў, Міхаіл Казінец, Вольга Клебановіч, Уладзімір Пятроў, Аляксандр Падабед, Аляксандр Ткачонак, пісьменнік Уладзімір Арлоў, драматург Дмітрый Багуслаўскі, чатырохкратная алімпійская чэмпіёнка Алена Бялова, былы першы намеснік міністра культуры Уладзімір Гілеп, былы міністр культуры, дырэктар Купалаўскага тэатра Павел Латушка, рэжысёр Мікалай Пінігін, спявак Уладзімір Пугач, педагог Ганна Севярынец, гімнастка Меляціна Станюта, былы намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі і іншыя.





# Фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці вучнёўскай моладзі

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

Такой арыентацыі ў газетах студэнты-беларусы не знойдуць, а ўбачаць, што сладзяюцца аўтары любімых імі газет на тое, што адраджэнню беларускай нацыянальнай культуры будуць у будучым Урад, дзеячы культуры, Вярхоўны Савет, інтэлігенцыя, замежныя спонсары. Этнічным беларусам надаецца невялікае значэнне, а яны, на наш погляд, павінны быць на першым месцы ў гэтай справе.

Цікавым уяўляецца пытанне аб тэмпах развіцця беларускай культуры сёння. Ацэнку гэтых тэмпаў у кожнай з газет мы бачым у табліцы VI.

юць культурай і не могуць падтрымаць яе ў дастатковай ступені матэрыяльна. На другое месца выйшла прычына "нежаданне часткі саміх беларусаў вывучаць родную мову, адраджаць культуру" ("Народная газета" - 45,1% матэрыялаў, "Літаратура і мастацтва" - 24,1%). Як бачым, многія аўтары ўсведамляюць тое, што нежаданне саміх беларусаў удзельнічаць у культурным адраджэнні стрымлівае яе развіццё, але чамусьці не разглядаюць гэтую частку насельніцтва як рэзерв у адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры. Яны разлічваюць у гэтым працэсе, у асноўным, на творчую інтэлігенцыю (на найбольш свядомую ўжо сёння частку насельніцтва).

***Табліца VI.***

**Тэмпы развіцця беларускай нацыянальнай культуры (%)**

| Тэмп | "Народная газета" | "Літаратура і мастацтва" |
|---|---|---|
| Тэмп нармальны | 17,7 | - |
| Тэмп высокі | - | - |
| Тэмп замаруджаны | 69,1 | 100 |
| Ніякага адраджэння культуры сёння няма | 13,2 | - |

Толькі 17,7% аўтараў артыкулаў "Народнай газеты" (у якіх ацэнка тэмпаў развіцця ёсць) лічаць сённяшні тэмп развіцця беларускай культуры задавальняючым, нармальным, астатнія лічаць, што гэты тэмп замаруджаны (69,1%), ці зусім ніякага адраджэння культуры няма (13,2%). У "Літаратуры і мастацтве" ва ўсіх матэрыялах, якія ўтрымліваюць гэтую характарыстыку, тэмп ацэнены як замаруджаны. Сярод прычын, якія стрымліваюць развіццё беларускай нацыянальнай культуры, такія як неэфектыўная дзейнасць уладаў, вузасць сферы ўжывання беларускай мовы і г.д. Падрабязней гэтыя прычыны прадстаўлены ў табліцы VII.

Вынікі даследавання гавораць аб тым, што, па меркаванні аўтараў, у замаруджванні тэмпаў развіцця беларускай нацыянальнай культуры павінны органы дзяржаўнай улады (гл. прычыны 1, 2, 3 у табліцы VII), якія дрэнна кіру-

Уздзеянне сродкаў масавай інфармацыі на свядомасць моладзі - гэта складаны працэс. З аднаго боку - гэта перадача нейкіх сацыяльных мадэлей сродкамі масавай інфармацыі, а з другога боку - гэта ўспрыманне дадзеных мадэлей аўдыторыяй, а ў нашым выпадку - студэнтамі. Сацыяльныя мадэлі не толькі адлюстроўваюць нейкія рэчаіснасці, але і нясуць у сабе нейкія праграмы дзейнасці. Апошнія накіроўваюць актыўнасць аўдыторыі, уздзейнічаюць на фарміраванне ўстановак, на тыя ці іншыя каштоўнасці і формы паводзін. У выніку праведзенага даследавання выяўлена, што прадстаўленыя ў абедзвюх газетах мадэлі нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі даволі падобныя адна на другую. Што тычыцца матэрыялаў па культурнай праблематыцы, то іх дастаткова атрымалі чытачы гэтых газет. Матэрыялы, прадстаўленыя ў газетах, даволі разнастайныя, яны закранаюць усе сферы беларускай нацыянальнай культуры. Але такім як беларуская мова, адукацыя, беларуская літаратура ўдзяляецца некалькі больш і, верагодна, зыходзячы з сённяшняга сацыяльна-палітычнага і культурнага становішча ў рэспубліцы. А што тычыцца арыентацый на дзейнасць па адраджэнні культуры, то, як мы ўжо бачылі, гэтыя арыетацыі скіраваны на інтэлігенцыю і органы ўлады і вельмі мала ўвагі ўдзяляецца актыўнасці саміх этнічных беларусаў. Зразумела, этнічныя беларусы ёсць і сярод дзеячаў культуры: і ў вышэйшых органах улады, і сярод студэнтаў, але ж асноўная частка - гэта “просты народ", які сёння не вельмі актыўны ў нацыянальным адраджэнні і, на нашу думку, сёння праз сродкі масавай інфармацыі трэба данесці да яго свядомасці, як многа ад яго залежыць у гэтай справе. Можа таму, што многія не лічаць суб'ектам нацыянальнага адраджэння просты народ, і застаецца сёння беларуская культура істотным фактарам жыцця невялікай часткі грамадства, хаця ўжо зрухі ў лепшы бок ёсць. І адбыліся яны пасля абвяшчэння незалежнасці рэспублікі. Незалежнасць на гэты раз далася неяк нечакана лёгка, без крыві і таму, здаецца, яе сёння недаацэньваюць і аўтары прааналізаваных газет, і многія іншыя ў нашым грамадстве. Яе таксама могуць недаацаніць і таму не берагчы студэнты. Бо, не сакрэт, што ёсць праблемы з фарміраваннем этнічнай свядомасці ў вучнёўскай моладзі Беларусі. Зразумела, што тут вядікая адказнасць кладзецца на выкладчыкаў гістарычных і культуралагічных дысцыплін, якія павінны імкнуцца зняць гэтыя праблемы.

Прэса вельмі дзейсны фактар у адраджэнні беларускай культуры нацыянальнай свядомасці беларусаў. Сёння прэса рэспублікі вельмі разнастайчая: выходзіць шмат газет розных накірункаў, кожная з якіх мае сваю аўдыторыю, ставіць свае мэты. Напрыклад “Літаратура і мастацтва”, на наш погляд, ставіць мэтай як мага шырэй асвятляць сучасныя падзеі, мерапрыемствы ў галіне беларускай літатуры і мастацтва рэспублікі. Тут менш, чым у “Народнай газеце" ўдзяляецца ўвагі дзяржаўнаму кіраўніцтву культурай, а больш унутраным праблемам розных галін культуры. У “Літаратуры і мастацтве" многа матэрыялаў пра творчую інтэлігенцыю, да якой выказваюцца вялікія патрабаванні ў справе развіцця беларускай нацыянальнай культуры. "Народная газета" (як орган Вярхоўнага Савета) большыя патрабаванні ў гэтай справе выказвае да дзяржаўных органаў улады. Можа таму, менавіта гэтыя суб’екты і выйшлі на першае месца ў адраджэнні культуры. Атрымліваецца, што ў кожнай з газет ёсць свой спецыфічны суб'ект і спецыфічнае кола пытанняў. Таму, на наш погляд, трэба арыентаваць студэнтаў на больш шырокае кола прэсы, каб яны змаглі атрымаць больш разнастайную інфармацыю па праблемах развіцця і распаўсюджвання нацыянальнай культуры. Ёсць шмат цікавых выданняў, якія можа было б перыядычна праглядаць у бібліятэках (бо падпісацца адразу на некалькі выданняў большасці студэнтаў “не па кішэні") - гэта і газеты "Наша Ніва", "Наша слова", “Голас Радзімы", і часопісы - "Спадчына", "Беларуская мінуўшчына" і г.д., якія перадаюць, як нам дазваляе меркаваць папярэдні вопыт даследавання прэсы, некалькі іншыя сацыяльныя мадэлі беларускага адраджэння. Напрыклад, у газеце "Голас Радзімы” больш акцэнт у дзейнасці па адраджэнні, захаванні і развіцці беларускай культуры ставіцца на тым, што ты беларус, што твае продкі беларусы, што гэта твая культура і менавіта ты павінен клапаціцца аб яе захаванні і развіцці, а не на тым, што ты прадстаўнік інтэлігенцыі (гэта значыць чалавек адукаваны і таму павінен займацца праблемамі нацыянальнай культуры і прыцягваць да гэтага іншых).

***Табліца VII.***

**Прычыны замаруджвання тэмпаў развіцця беларускай нацыянальнай культуры (%)**

| Прычыны | "Народная газета" | "Літаратура і мастацтва" |
|---|---|---|
| 1. Неэфектыўная дзейнасць органаў дзяржаўнай улады | 51,6 | 17,2 |
| 2. Вярхоўны Савет і Кабінет Міністраў больш заняты мінулым. Ім няма калі думаць аб сённяшнім дні і будучым | 8,1 | 37,9 |
| 3. Фінансавыя цяжкасці дзяржавы не дазваляюць ёй аказваць істотную фінансавую падтрымку культуры | 27,4 | 20,7 |
| 4. Нежаданне саміх беларусаў вывучаць родную мову, адраджаць сваю культуру | 45,1 | 24,1 |
| 5. Вузасць сферы ўжывання беларускай мовы не стымулюе яе вывучэнне | 11,3 | 6,9 |
| 6. Матэрыяльныя цяжкасці большасці насельніцтва рэспублікі вымушаюць людзей думаць аб хлебе надзённым, а не аб духоўным (мове, культуры) | 6,5 | 10,3 |

### § 2. Кантэнт-аналіз шматтыражкі БДУ "Беларускі ўніверсітэт"

Працэсы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, распачатыя ў Рэспубліцы Беларусь некалькі гадоў назад, абапіраюцца як на адзін з найбольш важкіх фактараў, на дзяржаўную праграму беларусізацыі грамадскага жыцця. Асноўнаю мэтаю гэтай праграмы, побач з нарматыўным забеспячэннем канстытуцыйных правоў грамадзян краіны на выкарыстанне і развіццё нацыянальнай культуры, з'яўляецца арыентацыя розных пластоў грамадскай свядомасці на стварэнне агульнапрынятай ідэалогіі дзяржаўнага суверэнітэту, якая грунтуецца, у першую чаргу, на планамерным і паслядоўным засваенні нацыянальных каштоўнасцей (мова, гістарычная памяць, традыйная абрадавасць і прафесійнае мастацтва). Можна меркаваць, што непарыўнасць і глыбіня працэсу засваення, звязаная непасрэдна з тым, наколькі праграмы беларусізацыі ўпісваюцца ва ўжо існыя тэхналогіі культурнай вытворчасці і мабілізацыі грамадскай свядомасці, такія, як адукацыйная сістэма. Таму падаецца асабліва цікавым высветліць, у якой ступені дзяржаўныя адукацыйныя структуры рэалізуюць праграмныя моманты беларусізацыі і наколькі характэрныя для сацыяльнай групы, уключаная у працэс адукацыі - студэнцкай моладзі - істотныя зрухі ў нацыянальнай свядомасці. Такім чынам, прадметам сацыялагічнага вывучэння будзе выступаць нацыянальная самасвядомасць удзельнікаў адукацыйных працэсаў (перш за ўсё студэнтаў) у яе дынаміцы і змястоўных рысах.

Аб'ектам даследавання, якое праводзілася метадам кантэнт-аналізу з'яўляліся друкаваныя матэрыялы, змешчаныя ў шматтыражнай газеце БДУ "Беларускі ўніверсітэт". Выбар аб'ектаў быў абумоўлены такімі яго уласцівасцямі, як пераважнае падача меркаванняў супрацоўнікаў і студэнтаў праз іх удзел у стварэнні і падрыхтоўцы матэрыялаў, асвятленне ў выданні адукацыйна-культурнай праблематыкі, арыентаванай як на канкрэтныя прыклады, так і на фіксацыю агульнасацыяльных зрухаў, адносна лёгкая даступнасць выдання да студэнцкага чытача.

У даследаванні непасрэдна вывучаліся матэрыялы газетнага выдання, якія змяшчаюць меркаванні аб ролі і месцы нацыянальных каштоўнасцей у грамадскіх працэсах і адукацыйных структурах: праблемы ажыццяўлення моўнай палітыкі, станаўлення новай гістарычнай свядомасці, укаранення ў сучасным жыцці традыцыйнай беларускай культуры і стварэння новых мастацкіх традыцый, дзейнасці патрыятычных арганізацый і руху.

У даследаванні былі выкарыстаны газетныя матэрыялы за 1990-1993 гг., што дазваляе прасачыць на прыкладзе ўніверсітэцкіх структураў напрамкі рэалізацыі Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" (прыняты ў сакавіку 1990 г.).

Вывучэнне матэрыялаў шматтыражнай газеты "Беларускі ўніверсітэт" паказала, што нацыянальна-культурная праблематыка займае даволі нязначнае месца ў агульным аб'ёме публікацый газеты. Так, яна складае каля 5% ад усяго аб'ёму публікацый за прааналізаваныя гады выхаду. Больш таго, назіраецца пэўнае змяншэнне аб'ёму гэтай праблематыкі ад 1990 да 1993 г. (да 3,5% у 1993 г.). Пры гэтым, зніжэнне цікавасці аўтараў друкаваных матэрыялаў да асвятлення працэсаў беларусізацыі закранула ўсе асноўныя тэмы праблемы, вызначаныя намі (нацыянальная сістэма адукацыі, гісторыя, культура і мастацтва, патрыятычныя арганізацыі).

*(Працяг у наст. нумары.)*





*Яўген Гучок*

# Імя і сутнасць яго, нажаль, пакуль амаль нязменныя...

## *(Аб рабстве паэма-эсэ)*

*(Заканч. Пач. у папяр. нумар.)*

***

Зжылі-звялі са свету ВКЛ
Прадажныя рабы
Панове.

***

Жыццё духоўнага раба -
Нібы ануча на вяроўцы,
Што кантактуе з ветрам.

***

Раб нібыта і вольны,
Але ж галера
Ў яго галаве і сэрцы.

***

Безліч красвордаў,
анекдотаў пошлых,
Бы семак торба,
Рабамі таксама вітаюцца.

***

Не забыць бы рабынь -
пахотніц-пляткарак,
Што разносяць і плодзяць
Бязглуздзіцу і лухту.

***

Свабода слова - не для рабоў,
Для рабоў -
Свабода плётак і бздуры.

***

Дзе над усім пануюць грошы,
Там нязводная безліч
Рабоў.

***

Хто можа замахнуцца
На Купалу?
Раскручаны раб.

***

Зжывалі і зжылі са свету
Купалу-песняра, прарока
Рабы, рабы, рабы.

***

Рабы адмываюць грошы,
Рабы адмываюць уладу
І для сябе размываюць
дарогу ў Сусвет.

***

А ў рабскім грамадстве
Медыкі-дактары ненавідзяць
Хворых.

***

З вершаў ганарар раба-паэта
Яго жонка-рабыня
Па крамах шастае.

***

Раб любіць заўсёды рабіць
Заўвагі замшэла -
Дрымотныя.

***

А парады раба,
Крый Божа, -
Суцэльная дзіч.

***

Калі халява дзе якая,
Раб
Тут як тут.

***

З рабоў караскацца нялёгка,
З усіх бакоў рабы цябе
Трымаюць.

***

Ізноў кажу сабе:
"Не думай лепей пра рабоў,
Чым ёсць яны на самай справе".

***

Каб ведаў раб,
Што Творца і яго чакае,
Задумаўся б тады.

***

Супраць рабства ў сваім народзе
Каліноўскі паўстаў -
І рабы з Усходу яго на шыбеніцу.

***

Раб-гладыятар
Дачакаўся Спартака;
Рабы духоўныя нікога не чакаюць.

***

Хто не належыць сабе,
Айчыне і Небу,
Таго беспамылкова рабом
Назавеш.

***

Рабы...
Адны на трыбуне,
Другія знізу.

***

Як сягонняшнія
карупцыянеры-рабы,
Так калісь
Літву-Беларусь разбурала
Рабская магнатэрыя.

***

Раб адмаўляе,
Што кар'еру робіць,
А сам за ёю - у кар'ер.

***

Раб і мову сваю на здзек аддасць
І сам да здзекавальшчыкаў
Далучыцца.

***

Як здраджваць Радзіме
Звычайны шараговы раб
Вучыцца ў раба-магната.

***

Не спрацаваў
У гэтым свеце
Шчэ не адзін рабстваадвод.

***

Раб можа быць магутным,
А вось вялікім чалавекам -
Аніколі.

***

Раб не любіць сваю Радзіму
І другіх прымушае
Да гэтае нелюбові.

***

Розум не для раба,
Тым болей дух,
Што ад неба.

***

Дзе сёння Спартак
Ад духоўнага рабства?
Хаця і фізічнае шчэ не знікла.

***

Дзе няма сувязі з небам,
Там выспявае
Рабства.

***

Рабы не любуюцца зоркамі
І не адрываюцца
Ад зямлі.

***

Рабству няма адпявання,
Наадварот,
Гімны яму паўсюдна гучаць.

***

І з рабства дарога
Толькі
Праз неба.

***

Зямля у небяспецы
Пакуль існуе
Раб - homo erectus.

***

Калі надыдзе канец рабству?
Відаць, ніколі;
Яно, як бачым,
толькі ўдасканальваецца.

***

Без маскі раб -
Ужо крыху
Не раб.

***

Недаацэнка сябе...
Штосьці рабскае
І ў гэтым ёсць.

***

Сапраўднае шчасце
Будзе ў раба,
Калі ён стане часткаю Творцы.

***

У абсурдным свеце рабоў
Адно толькі выйсце -
Душу сваю ратаваць.

***

Мо толькі праўда пякучая
Здольна выпаліць рабства
У душы раба.

***

"Лепей памерці,
Чым быць рабамі", -
Рабы так не думаюць.

***

З абсурднага свету рабоў
Адно толькі выйсце -
Ратаваць сябе небам.

***

І ўсё ж рабам не ўдасца
Ператварыць планету
ў інстытут рабоў;
Неба не дазволіць.

***

Раб! Неба табе не працягне руку
Пакуль ты не адштурхнешся ад дна
Сваёй рабскай душы.

***

Пад зямлёй для раба нафта і газ,
Для свабоднага
над планетай Зямля
Бясконцы Сусвет.

***

Маім недабразычлівцам - рабам
Жадаю аднаго:
Паразумнець і падабрэць.

***

Што ж аўтар скажа пра сябе?
"Клеймаваны, ды не
Раб".

# Адказ гісторыкаў Вячаславу Даніловічу

У эфіры першай праграмы БТ 20 жніўня 2020 г. у якасці эксперта па бела-чырвона-белым сцягу выступіў дырэктар Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук Вячаслаў Даніловіч.

У гэтым выступе кандыдат гістарычных навук В. Даніловіч прапанаваў "задумацца" над сімволікай бела-чырвона-белага сцяга і асудзіў беларускую грамадзянскую супольнасць за яго выкарыстанне ў пратэстах. У якасці аргумента была агучана замшэлая дэмагагічная тэза пра ўжыванне гэтага сцяга беларускімі калабарантамі ў часы нямецкай акупацыі.

Між тым добра вядома (і не толькі гісторыкам), што бела-чырвона-белы сцяг здаўна прысутны ў беларускай гісторыі і з'яўляецца нацыянальнай і гістарычнай каштоўнасцю беларускага народа.

Нацыянальныя сцягі падчас Другой сусветнай вайны ўжываліся калабарантамі ўсіх краінаў, акупаваных гітлераўскай Германіяй. У тым ліку расійскімі - пад афіцыйным сімвалам сучаснай Расіі бела-сіне-чырвоным сцягам на баку Гітлера ваявалі сотні тысяч расійцаў.

Выкарыстанне нацыянальнага сцяга якімі-небудзь варожымі сіламі не прыводзіць да ягонай дэвальвацыі. Бела-чырвона-белы сцяг, пад якім у жніўні 2020 г. праходзіць мірная беларуская рэвалюцыя, не можа быць скампраметаваны нават тым, што пад ім прымаў прысягу першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

У вырашальны момант гісторыі краіны кожны грамадзянін вымушаны выбіраць, на чым баку яму стаць. Спадар Вячаслаў Даніловіч выбраў бок антыбеларускай дыктатуры і выкарыстаў у яе абарону сваю афіцыйную пазіцыю дырэктара акадэмічнай установы.

Гэты антынавуковы і антымаральны чын паставіў яго па-за межамі не толькі беларускай грамадзянскай, але і навуковай супольнасці.

Аляксандр Краўцэвіч, доктар гістарычных навук (Гародня);
Аляксандр Смалянчук, доктар гістарычных навук (Гародня);
Генадзь Сагановіч, доктар габілітаваны (Менск);
Алег Яноўскі, доктар гістарычных навук (Менск);
Святлана Марозава, доктар гістарычных навук (Гародня);
Тадэвуш Гавін, доктар габілітаваны (Гародня);
Ганна Энгелькінг, доктар габілітаваны (Варшава);
Юры Гардзееў, доктар габілітаваны (Кракаў);
Вольга Кавалеўская, доктар гістарычных навук (Кіеў);
Dr Русціс Камунтавічус (Коўня);
Андрэй Янушкевіч, кандыдат гістарычных навук (Менск);
Уладзімір Ляхоўскі, кандыдат гістарычных навук (Менск);
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук (Менск);
Ірына Каштальян, PhD (Менск);
Валянціна Мятліцкая (Лебедзева) (Гомель);
Таццяна Касатая, PhD (Гародня);
Алена Кандрацюк, кандыдат гістарычных навук (Кіеў);
Вольга Зубко, кандыдат гістарычных навук (Вінніца);
Анатоль Вялікі, кандыдат гістарычных навук (Менск);
Андрэй Кіштымаў, кандыдат гістарычных навук (Менск);
Іна Соркіна, кандыдат гістарычных навук (Гародня);
Аляксандр Пагарэлы, магістр гісторыі (Гародня);
Аляксандр Петухоў, магістр гістарычных навук (Магілёў);
Марат Гаравы, краязнавец (Кобрын)...

# Па закліку сумлення

Дзясяткі людзей за апошні тыдзень выказалі сваю грамадзянскую пазіцыю. Акторы Нацыянальнага беларускага тэатра імя Я. Купалы запісалі відэазварот да грамадзян. Над будынкам тэатра залунаў бел-чырвона-белы сцяг. Асудзіў гвалтоўныя дзеянні сілавікоў дырэктар Купалаўскага тэатра, былы міністр культуры Павел Латушка. Ён назваў выбары несумленнымі і заклікаў даць прававую ацэнку сілавым метадам і актам гвалту, якія былі ужытыя супраць мірных дэманстрантаў.

Праз некалькі дзён Павел Латушка быў звольнены з пасады дырэктара тэатра, а тэатр часова зачынены быццам бы па прычыне захворвання членаў калектыва на COVID.

- Купалаўскі тэатр - сэрца нашага народа, залаты фонд нацыі, - зазначыў былы дыпламат і дырэктар тэатра. - Творчасць немагчымая без свабоды. Немагчымае руйнаванне базавых інстытуцый культуры нашай, якім з'яўляецца Купалаўскі тэатр.



Супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі выказаліся ў падтрымку Паўла Латушкі: *"Звальненне прафесінала такога ўзроўню будзе вялікай памылкай. Акрамя таго, мы можам страціць адзін з лепшых тэатральных калектываў краіны. І гэта будзе непапраўнай стратай для беларускай культуры!"* З такім жа лістом выступілі 33 супрацоўнікі Дзяржаўнага музея беларускай літаратуры. Сябры Рады ТБМ імя Ф. Скарыны на чале з Аленай Анісім выказаліся ў падтрымку Паўла Латушкі.

Многія тэлевядоўцы, звольніліся з дзяржаўных тэлеканалаў, каб не трансляваць хлусню на ўсю краіну. Сышоў з працы Антон Мартыненка, які на СТВ вёў перадачу "Раніца. Студыя добрага настрою". Тэлевядовец Іван Ургант змясціў у Інстаграме бел-чырвона-белы сцяг і напісаў: "Ненавіжу гвалт! І люблю Беларусь!"

Заслужаны майстар спорту Вадзім Дзевятоўскі, чэмпіён свету, Алімпійскіх гульняў і чэмпіянату Еўропы зрабіў пост у Фэйсбуку: "Лукашэнка - не мой прэзідэнт."

Спявак Аляксей Грос, пераможца "Славянскага базару" надрукаваў у Інстаграме пост: "Сорамна маўчаць, сорамна быць крывадушным."Спявачка Інна Афанасева звярнулася да сілавікоў: "Не біце і не забівайце людзей!" "Спыніце гвалт!" - звярнулася да кіраўніцтва АМАП-у вядомая спартсменка Дар'я Домрачава. Заслужаны артыст Беларусі Яўген Крыжаноўскі запісаў відэазварот да старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай.

Пра звальненне з шэрагаў структур МУС і Узброеных сілаў паведаміў шэраг грамадзянаў. З шэрагаў унутраных войскаў звольніўся старшы пілот атрада верталётнай эскадрыллі Аляксандр Ісачанка. Са Следчага камітэта зволіліся старшы лейтэнант юстыцыі Мікіта Старажэнка і старшы следчы Партызанскага раённага аддзела СК Андрэй Астаповіч.

*"Маўчаць не буду, удзельнічаць ва ўтойванні злачынстваў не буду, злачынныя загады выконваць не буду, працягваць працу ў сілавым блоку не магу з прычыны неадпаведнасці маіх прынцыпаў з сапраўднай палітыкай"*,-напісаў у сваім рапарце Андрэй Астаповіч. З шэрагаў міліцыі пасля 14 гадоў службы выйшаў падпалкоўнік Аляксандр Ахрэмчык. *"Маё сумленне не дазваляе быць у так званым шыхце. Я добрасумленна ставіўся да сябе і сваёй службы. Настаў момант, калі я не магу шчыра перад самім сабой выконваць*




*сваю працу. Я зразумеў, што фактычна прадаю свае маральныя прынцыпы…"*, - напісаў А. Ахрэмчык.

У Глыбокім звольнілася па закліку сумлення начальнік аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Марыя Сакалоўская.

Сумленную хрысціянскую пазіцыю акрэслілі гарадзенскія святары - архіепіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі Арцемій і настаяцель Свята-Пакроўскага сабора Георгій Рой.

Яшчэ да выбараў 2 жніўня айцец Георгій Рой прамаўляў у саборы і нагадаў вернікам, што, згодна з Бібліяй, бацькам хлусні ёсць д'ябал, і заклікаў вернікаў ніколі не далучацца да яе, дзе б яна не праяўлялася.

*"Шмат перажыванняў у кожнага з нас, каб быў мір і спакой у нашай краіне. А міру і спакою можна дасягнуць тады, калі ёсць справядлівасць. Калі парушаецца прынцып справядлівасці ў грамадстве, тады ўзнікаюць розныя супярэчнасці, якія правакуюць самыя негатыўныя наступствы. Калі парушаецца прынцып праўды - гэта таксама тое, што правакуе людзей на рэзкія крокі, думкі і словы".*

- Усе да глыбіні душы былі шакаваны тым, што адбывалася апошнія некалькі дзён, - адазваўся пасля падзей настаяцель Свята-Пакроўскага сабора.- Такога Беларусь не бачыла з часоў вайны. Фактычна на чатыры дні беларусы апынуліся сам насам з вялікім злом. Калі АМАП сышоў з нашых вуліц, не было ніякіх правакацый, беспарадкаў, пабітых вітрын. Пытанне, хто ж тады стварае напружанасць на вуліцах нашых гарадоў? Для чаго патрэбны былі гэтыя здзекі?

Звяртаючыся ў храме да настаўнікаў архіепіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі Арцемій прамовіў:

- Вам на каленях трэба стаяць за ўсе фальсіфікацыі і хлусню!

Мітрапаліт Менскі і Заслаўскі Павел, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі заклікаў Аляксандра Лукашэнку спыніць гвалт. Мітрапаліт Павел наведаў пацярпелых у шпіталі. Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у сераду 19 жніўня прыйшоў да ІЧУ на Акрэсціна. Ён памаліўся пад сценамі следчага ізалятара, а таксама пагутарыў з валанцёрамі і былымі вязнямі ІЧУ, і сустрэўся з міністрам унутраных справаў Караевым.

Сімвалічны ланцуг Пакаяння, які звязаў мемарыял у Курапатах з ІЧУ на Акрэсціна, адбыўся ў Менску 22 жніўня. У вялізны шэраг вышыхтаваліся, трымаючыся за рукі, тысячы менчукоў. Людзі станавіліся ад урочышча Курапаты праз вуліцы Мірашнічэнкі, Кальцова, плошчу Бангалор, Нямігу, метро "Грушаўка" да турмы на завулку Акрэсціна.

***Паводле матэрыялаў СМІ падрыхтавала Э. Дзвінская***

***Навіны Германіі***

# У Германіі падтрымалі бастуючых супрацоўнікаў БТ і іншых вяшчальнікаў




Пра падтрымку бастуючых супрацоўнікаў беларускага тэлебачання і іншых вяшчальнікаў заявіў Саюз журналістаў Германіі.

- Ад імя больш за 30 тыс. нашых чальцоў выказваю салідарнасць з вамі і натхнёна на барацьбу за волю СМІ ў вашай краіне мірнымі сродкамі, - заявіў старшыня саюза **Франк Юбераль**. Па яго словах, той факт, што людзі нарэшце пачалі выступаць за рэалізацыю фундаментальнага права на свабоду СМІ і меркаванняў, з'яўляецца выдатным сігналам надзеі для краіны, якая да гэтага журналістаў бязлітасна душыла.

У сувязі з гэтым Юбераль выказаўся за тое, каб міжнародныя арганізацыі, прызваныя клапаціцца пра волю мас-медыя, выразна выказалі сваю пазіцыю.

- Міжнародная грамадскасць не павінна дазволіць Аляксандру Лукашэнку з выкарыстаннем грубай сілы пераследваць апазіцыянераў і журналістаў, як ворагаў дзяржавы, - падкрэсліў кіраўнік саюза.

Як паведамляў БЕЛАПАН, зварот пра намер пачаць страйк падпісалі каля 300 супрацоўнікаў Белтэлерадыёкампаніі, дзясяткі падалі заявы на звальненні, частка звольнілася раней. З'явілася інфармацыя пра страйк некаторых працаўнікоў тэлеканала АНТ і большасці журналістаў радыё "Сталіца". Пайшлі чуткі, што на тэлебачанне запрошаны журналісты з Расіі.

21 жніўня падчас наведвання агракамбіната "Дзяржынскі" А. Лукашэнка чуткі пацвердзіў:

- Свята месца пуста не бывае. У нас у Расіі працуюць каля 60 тыс. так званых гастарбайтараў. На розных пасадах, нават у палітыцы. Расейцы нам прэтэнзій не прад'яўляюць.

Пытанне пра прыцягненне расійскіх журналістаў паўстала пасля таго, як некаторыя супрацоўнікі тэлекампаніі "выскачылі на вуліцы і пачалі мітынгаваць".

- ... якія вырасшлі на тэлевізары, і галоўным чынам, якія я на руках насіў. Яны выраслі і раптам зразумелі, што ў іх нечага бракуе. Некаторыя выскачылі: працаваць не будзем! Не трэба", - заявіў Лукашэнка.

- Усё адно трэба разумець, што цябе нідзе не чакаюць, канкурэнцыя вялікая. Я папрасіў расейцаў: дайце нам дзве-тры групы журналістаў на ўсякі выпадак. Гэта шэсць ці дзевяць чалавек з самага прасунутага тэлебачання, - адзначыў ён. - І наша моладзь хай пагляддзіць, як працуюць. Слухайце, гэтыя яшчэ дзве-тры групы не прыехалі, палова тых, якія пасціліся і бегалі вакол Белтэлерадыёкампаніі, - назад. Я кажу: ну добра, сёння возьмем назад. Хто заўтра сыдзе - не прымаем.

Нармальна, сітуацыя стабілізавалася. Хто хоча, той працуе. Хто не хоча, той не працуе. А расейцаў я нават запрасіў: дайце мне адну групу ў пул прэзідэнта, каб бачылі, як яны працуюць. І я ведаю гэтых людзей. Тэлебачанне нармальнае, - сказаў Лукашэнка.

Кіраўнік Саюза журналістаў Расіі Уладзімір Салаўёў (цёзка і аднафамілец вядомага расійскага тэлевядоўцы) заявіў, што прапанова А. Лукашэнкі гучыць даволі дзіўна, паколькі такія пытанні з'яўляюцца ўнутранымі справамі Беларусі:

- Было б вельмі дзіўна, калі б расійскія журналісты прыехалі і замянілі бастуючых ці іншых беларускіх калегаў. Акрамя таго, гэта выклікала б досыць складаную рэакцыю з боку сусветнай супольнасці: чаму і з якой ласкі трэба замяняць беларускіх журналістаў?

Думаю, наўрад ці нехта з расійскіх выданняў адправіць у такім фармаце сваіх супрацоўнікаў. Працаваць ад свайго выдання, вядома, туды едуць. Многія мае калегі і сябры там зараз працуюць. А гэтая прапанова з усіх бакоў няправільная, наўрад ці гэта магчыма, - сказаў Салаўёў.

***Навіны Германіі.***

**Заява**

## Супрацоўнікі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук выступілі з заявай, якую падпісалі 38 чалавек на чале са старшыней прафсаюзнай арганізацыі інстытута

9 жніўня падчас правядзення выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь адбыліся масавыя фальсіфікацыі. Былі зафіксаваны шматлікія парушэнні заканадаўства. Мы выказваем недавер агучаным Цэнтральнай выбарчай камісіяй вынікам. Развязаны пасля выбараў гвалт над мірнымі грамадзянамі, якія выказалі свае абурэнне, груба парушае законнасць у нашай краіне. У сувязі з гэтым мы патрабуем ад уладаў:

1. Выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь;
2. Неадкладна вызваліць усіх палітычных зняволенных і затрыманых грамадзян краны;
3. Спыніць катаванні ў адносінах да людзей
4. Пакараць усіх вінаватых у распальванні сацыяльнай варожасці ў грамадстве.
5. Расфарміраваць АМАП
6. Перадаць турмы і следчыя ізалятары ў падпарадкаванне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь.
7. Увесці прынцып выбарнасці суддзяў.





# Васіль Сухамлінскі: стварэнне чалавека

## *(Да 50-й гадавіны памяці пра Настаўніка)*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Тая самая дзяўчынка піша: *"Бабуля плакала ад радасці, што яе цімураўцы не забылі, што прынеслі ёй такі падарунак."* І такое меркаванне было не адзіным у маім класе. І не толькі ў маім, інфармацыя сцякаецца да нас з розных месцаў. Думаю: як звярнуць іх увагу? На другі дзень прынёс арэх, раскалоў яго папалам. "Зараз пачнем абмяркоўваць выпадак з бабуляй, - кажу, - але спачатку хачу, каб вы гэты арэх з'елі. Хто хоча?" Жаданец, натуральна, знаходзіцца. "Вось табе ядро арэха. Але! - ты будзеш яго есці, як бабуля. Зубоў у цябе няма, таму расціскай арэх паміж языком і нёбам. А пакуль ты будзеш яго языком штурхаць і крышыць, я пайду ў кабінет хіміі і вазьму прабірку." - "Навошта?" - "Каб збіраць тваю кровушку". Прыціх клас.

А ў нашай школе тады працаваў бухгалтар Фёдар Кузьміч. Дзеці яго штодня бачылі, ён заходзіў харчавацца ў школьную сталоўку. Інвалід, на мыліцах, чалавек грузны, перасоўваўся з цяжкасцю. Была зіма, галалёд. "Ведаеце, - кажу, - што я ўчора бачыў? Ідзе Фёдар Кузьміч на працу. Ад машыны, на якой яго падвезлі, да дзвярэй бухгалтэрыі недалёка, але ісці яму цяжка. Слізка - не дай бог, мыліцы раз'едуцца на лёдзе. Ідзе група хлопцаў, маладых, здаровых, убачылі яго, спыніліся і кажуць: "Фёдар Кузьміч! Вам так цяжка ісці. Давайце мы вам дапаможам - возьмем вашы мыліцы і панясем наперад."

Паверце, сябры, у класе смеху не было. Так сур'ёзна стала. Яны зразумелі, што гэта не проста глупства, гэта дзікасць, варварства. Гэта дало мне магчымасць перакінуць мосцік да арэхаў. "Вы зразумелі пачварнасць прапановы такой дапамогі: узяць мыліцы ў чалавека, які без мыліцаў не можа перасоўвацца. А як жа тут: падарылі арэхі, а есці іх няма чым?"

Гэтую гісторыю сам Васіль Аляксандравіч распавядаў школьнікам. "Вось гляджу я на дзяцей, - успамінаў ён, - і бачу ў вачах некаторых боль, спагаду, непаразуменне, трывогу, перажыванне: як жа бяззубая бабуля будзе есці гэты падарунак. А ў іншых вачах бачу агеньчыкі зларадства." Маленькія паскуднікі, хутчэй, самі яшчэ не ўсвядомілі, што яны паскуднікі. Вось калі б ім неяк змадэляваць сітуацыю, паказаць перспектыву такой падзеі, магчыма, яны і не прыйшлі б да такой дзікай думкі.

Гэтыя дзве старонкі дапамагаюць вызначыць узровень маральнаснай, эмацыянальнай разбуджанасці чалавека. І даюць магчымасць займацца тым, што ў вуснах некаторых гучыць так: асардэчванне розуму. Мы называем нашы ўрокі ўрокамі эмацыянальнага абуджэння і сацыяльнага памкнення. Гэтыя старонкі прымушаюць людзей хвалявацца, шукаць адказы і выклікаюць памкненні стаць лепшымі, разумнейшымі, дабрэйшымі, чысцейшымі.

Вось яшчэ старонка, прыгодная для любога ўзросту.

*Вечарэла. Па дарозе йшлі двое - бацька і сямігадовы сын. На дарозе ляжаў камень. Бацька не заўважыў каменя, спатыкнуўся, выцяў нагу. Крэкчучы ад болю, ён абышоў камень, узяў хлопчыка за руку і пайшоў далей. На другі дзень бацька з сынам ішлі назад. Бацька забыў пра камень, зноў не заўважыў яго, спатыкнуўся, параніў нагу. Праз колькі дзён бацька з сынам зноў ішлі той жа дарогай. Бацька сказаў сыну: "Глядзі ўважліва, сынок. Недзе тут камень. Трэба абыйсці яго". Вось і тое месца, дзе бацька двойчы спатыкнуўся. Бацька і сын запаволілі крок, прыглядваючыся, але каменя не было. На ўзбочыне сядзеў сівы дзед. "Дзядуля, - спытаў хлопчык, - вы не бачылі тут каменя?" - "Бачыў. Я адкінуў яго з дарогі." - "Вы таксама спатыкнуліся і выцялі нагу?" - "Не, я не спатыкнуўся". - "Чаму ж вы адкінулі камень?" - "Таму, што я чалавек". Хлопчык спыніўся ў роздуме. "Тата, - спытаў ён, - а хіба вы - не чалавек?"*

Адна дзяўчынка напісала так: *"Мабыць, бацька разважаў так: не я той камень паклаў, не мне яго і прыбіраць".* Дзяўчошасцікласніца разгледзела пазіцыю абывацеля, і ёй гэтая пазіцыя не спадабалася. Задача настаўніка, задача школы цяпер - гэтае памкненне замацаваць, падсілкаваць яго ідэйна, эмацыянальна з тым, каб дзяўчынка пайшла далей у сваім маральнасным развіцці. Іншыя дзеці ў сваіх працах успаміналі, што былі некалі на прагулцы, зачапіліся за нейкі дрот і тата, хаця было ўжо цёмна, не проста адкінуў дрот убок, а занёс яго туды, дзе людзі не ходзяць. "Мой тата зрабіў правільна, бо думаў не толькі пра сябе".

Чацвёрты-пяты класы - гэта ўзрост шчырай адкрытасці. Нам, дарослым, трэба толькі падтрымаць у іх гэтыя шчырыя памкненні, якія робяць чалавека натуральным, простым, свабодным. А людзей простых, свабодных, непасрэдных, на жаль, становіцца ўсё меней. Такім людзям цяжэй жыць - яны аголеныя. Але сустрэча з чалавекам непасрэдным, шчырым, суразмова з ім - гэта як бальзам для душы, для сумлення. І калі б не сустрэчы з такімі людзьмі, то, магчыма, і для сябе я не хутка нейкія адкрыцці зрабіў бы.

Я даваў гэтыя старонкі для абмеркавання, бачыў тут нейкія рэзервы развіцця маўлення. Вось лічыце: я расказаў, ён паўтарыў бацьку ці маме, потым бабулі, яшчэ каму. Чатыры разы адзін і той жа тэкст сваімі словамі - ого! Нешта прапусціў, нешта дадаў - развіваецца моўны апарат, цудоўна! Выслухоўвае чатыры меркаванні і нейкае адно выбірае - аналіз. Фарміруе з чатырох меркаванняў сваё - сінтэз. Такім было маё прымітыўнае разважанне.

Неяк прыйшла да мяне адна мама. Падыходзіць да мяне без усякага прывітання, бярэ мае рукі і дзякуе: "Я вам так удзячна, вы нават не ведаеце, наколькі!" Я грэшным ладам падумаў, што жанчына памылілася адрасам. "На здароўе, - кажу, - але за што? Дый ці ведаеце вы, хто я?" - "А як жа. Гэта ж вы далі Валодзьку казку абмяркоўваць з бацькамі. А ў мяне другая змена, дык ён з бацькам абмяркоўвае. Трэці вечар абмяркоўваюць, трэці вечар спрачаюцца, прыходзяць суседзі, спрачаюцца да хрыпаты, спрачаюцца трэці вечар і трэці вечар, дзякуй вам, не п'юць!"

Яна мяне проста азарыла. Я тады падумаў: вось гэтыя малюсенькія староначкі збіраюць людзей на размовы - гэта цудоўна. Змацоўваецца духоўная еднасць сям'і. Значыць, трэба зрабіць так, каб як мага болей сямей далучыліся да гэтага. І мы пачалі памнажаць даступнымі нам сродкамі і распаўсюджваць гэтыя тэксты і метадычныя рэкамендацыі да іх. А тыя, хто атрымаў іх ад нас, таксама памнажалі і раздавалі, бывала сотнямі, а калі і тысячамі асобнікаў. Усё гэта разыходзіцца па краіне. Далучаем да гэтай працы і школьнікаў. І рассылаем, не чакаючы, пакуль гэта будзе выдавацца цэнтралізавана. [Сёння патрэбы ў такой працы няма; старонкі В. Сухамлінскага лёгка знайсці ў інтэрнэце; а тады, калі дзяржаўныя выдавецтвы амаль усе сродкі трацілі на прапагандысцкую палітычную літаратуру і паперы не хапала нават на мастацкую класіку, "рукапіс" быў адзіным спосабам распаўсюджвання неабходных тэкстаў. - *М.Б.*]

Гэты этычны бок спадчыны В. Сухамлінскага лёг у падмурак нашых семінараў-практыкумаў. Так нарадзіліся ўрокі дабрыні, урокі сумлення, урокі велікадушнасці, урокі мужнасці, урокі далікатнасці… - я мог бы назваць каля пяцідзесяці найменняў такіх урокаў. Для адных урокаў мы знайшлі тры-чатыры тэксты, для іншых толькі два - і на іх падставе сістэматычна і планамерна рыхтуем такія ўрокі. Можна заказваць нашы семінары, мы прыедзем з памножанымі тэкстамі, раскажам, што і як…

Але час на лекцыю ўжо вычарпаны…

Галасы з залы: "Мы хочам яшчэ слухаць. Працягвайце, калі ласка".

Ну што ж, магу. Але зробім перапынак…

Наступная старонка вяртае нас да незагойнай раны - да вайны, да тэмы інтэрнацыянальнага выхавання, тэмы святой і няпростай. Тэму гэтую асабліва цяжка раскрываць на матэрыяле, звязаным з Германіяй. Можна казаць пра венграў, харватаў, чэхаў, палякаў, якія таксама пацярпелі ад фашыстаў і змагаліся побач з нашымі салдатамі ў гады вайны. Але вось немцы, якія ўжо не першы раз прынеслі на нашу зямлю разбурэнні, прыніжэнні, смерць…

Гэтая старонка вяртае нас у той настрой, які дарослыя людзі яшчэ памятаюць. Гэты настрой быў выказаны, напрыклад, такімі словамі: "Да таго часу, пакуль апошняя цагліна не будзе ўкладзена ў разбураныя дамы, ні адзін палонны нашу краіну не пакіне." А да канца 40-х гадоў усе палонныя немцы вярнуліся на радзіму, акрамя злачынцаў, якіх судзілі асобна.

Мы ведаем пра жыццё Эрнста Тэльмана, пра жыццё Эрыха Хонекера, які ў час будаўніцтва Магніткі ўзначальваў нямецкі інтэрнацыянальны атрад, мы глядзелі фільм "Сямнаццаць імгненняў вясны", мы ведаем эпізоды, калі падалі бомбы і не ўзрываліся, напоўненыя пяском з тырсой, на якіх няправільнай рускай моваю было напісана "Чым можам, тым дапаможам", мы ведаем гераічныя старонкі нямецкага супраціву. І мы не адчуваем варожасці, непрымірымасці да нямецкага народа. Як дапамагчы дзецям зразумець, што фашыст - гэта мучыцель, кат, гэта звыродак, а немец - такі ж працаўнік, як і мы, такі ж мысліўца, як і мы, такі ж гуманіст? Вось старонка, якая дапамагае правесці ўрок вельмі высокага эмацыйнага напалу.

*Гэта было праз тры гады пасля вайны. Прыехаў да нас стары нямецкі змагар. У гады фашызму ён быў кінуты ў турму. А калі фашыстаў перамаглі, ён пачаў кіраваць заводам. І вось ён прыехаў у нашу краіну. Яго добразычліва прымалі на фабрыках і заводах. Потым ён папрасіў пабываць у школе, захацеў сустрэцца з дзецьмі. Мы падрыхтаваліся да сустрэчы: зшыхтаваліся на школьным двары, прынеслі кветкі. Мы ведалі, што прыдзе наш сябар, але ўсім было не па сабе: ён - немец, а немцы прынеслі на нашу зямлю гора, смерць, пакуты. Вось стаіць другакласніца Мая. У яе няма абедзвюх рук. Калі Маі было тры гады, праз наша мястэчка праходзіў фронт. Мама бегла з Маяй на руках. Немец кінуў гранату. Маму забіла, а Маі адарвала дзве рукі…*

*Цяпер Мая стаіць у першым шэрагу…*

*Калі да нашага шыхту наблізіўся сталы чалавек, усе пачалі апладзіраваць. Ён ішоў - сівы, стройны чалавек, глядзеў нам у вочы і ўсміхаўся. Яго ўсмешка здавалася нам сумнай. Каля Маі ён спыніўся. Яна не апладзіравала і, магчыма, гэта кінулася яму ў вочы. Убачыўшы цурбалкі рук, ён схіліў галаву, апусціўся перад дзяўчынкай на калені. Нас было шэсцьсот чалавек, але стала так ціха, што мы чулі гудзенне пчол у кветках вішань. Ён апусціўся на калені, асцярожна ўзяў рукамі адну кульцю яе рукі і пацалаваў. Мы пачулі яго словы: "Даруй, дзяўчыначка… пакалечылі цябе фашысты, не вінаваты нямецкі народ."*

Мая стаяла велічная і гордая.

З таго часу, калі я чую слова РАДЗІМА, я бачу Маю ў тое імгненне.

Думаеце, не будзе такой цішыні ў вашым класе? Будзе. Такая ж напружаная, удумлівая, засяроджаная. Трэба даць нагрузку на мозг, на розум, на сэрца. Праз эмоцыі, праз такія вось узрушэнні дзіцяці лягчэй зразумець усё гэта. Сухамлінскі нам тут вельмі і вельмі дапамагае.

Я распавядаю пра гэта ўжо восьмы год і кожны раз нанова хвалююся, магчыма, таму што бачу вашы твары, заплаканыя, задумлівыя, усхваляваныя. Я праводзіў такі ўрок у сёмым класе і ўзмацніў яго, дазволіўшы сабе, мабыць, недазволенае. Падумаў: трэба, каб яны гэта перажылі. І спытаў: "Скажыце, дзеці, ці ёсць сярод вашых блізкіх страчаныя пад час вайны?" А зараз звяртаюся з гэтым пытаннем да вас. Падніміце рукі і паглядзіце наўкола. Вы тое ж убачыце ў сваім класе ў поўнай цішыні. Гэта дасць вам магчымасць сказаць, што тая наша рана незагойная. Шмат хто з маіх вучняў не ведаюць сваіх дзядуляў, а двое не бачылі дзядулю нават на фотаздымку. Якая ж гэта страта для дзіцяці! Адзін з іх, ужо дзевяцікласнікам, падышоў да мяне і сказаў: "А ўсё ж я ўгаварыў бацьку, і мы з'ездзілі на магілу дзядулі. Праўда, там іх сотні, але на абеліску ёсць і яго прозвішча".

[В.Сухамлінскі гэтым расповедам пакінуў яшчэ адну задачу. Словы нямецкага госця ў яго рукапісе пададзены так, што адна літара не вельмі выразна прачытваецца. І застаецца загадка: "не виновен немецкий народ" ці "но виновен немецкий народ"? -*М.Б.*]

*Май 1945-га. Усё гучней і гучней пераможныя раскаты салютаў. Усе разумеюць, што вайна вось-вось закончыцца. Але ўсё часцей дзевяностагадовы паштальён дзед Яўхім прыносіць паведамленні пра гібель блізкага чалавека - бацькі, мужа, брата ці сына. Тыя трохкутнікі былі сіняга колеру. Пра веснікі смерці - сінія канверты - ведалі нават дзеці.*

*У гэтай сям'і было чацвёра дзяцей. Старэйшай, Марыі, было дзевяць год, малодшай - тры. Маці пакарміла ў зямлянцы дзяцей і збіралася ісці на працу ў поле. Моўчкі зайшоў дзед Яўхім і працягнуў сіні трохкутнік. Старэйшая, Маша, падбегла да маці, выхапіла з яе рук канверт і загаласіла, як дарослая: "Мамачка, родненькая! Схавай гэтае пісьмо ў куфар, не чытай яго, не адкрывай яго!.." І ўсе дзеці абступілі маці, пачалі торгаць яе за спадніцу, плакаць і прасіць: "Не чытай гэтае пісьмо… пакладзі яго на дно куфра…"*

*(Працяг у наступным нумары.)*





# Пра Браніслава Тарашкевіча

## Успаміны сеймавага аглядальніка пра беларускі клуб*

У "Нашым Пшэглёндзе" сеймавы аглядальнік гэтай газеты Б. Зынгер з аказіі дзесяцігоддзя Сейма, апублікаваў дастаткова павярхоўныя, але жывыя і яркія характарыстыкі розных палітычных груповак у Сейме пад агульнай назвай "Ад Вітаса да Славэка". У адным з апошніх нумароў надрукаваны эскізныя, шмат у чым недакладныя, але цікавыя нататкі пра асоб беларускага клуба, а дакладней, пра аднаго з яго былых кіраўнікоў, пасла Тарашкевіча.

Гэта павінна было стаць "вясной народаў" у Сейме. У сеймавай зале сабраліся пабратаўшыеся паміж сабой яўрэі, немцы, украінцы і беларусы. Разам з імі быў нават адзін рускі - Сярэбранікаў. У першыя хвіліны падавалася, што ствараецца маналітны доўгатэрміновы палітычны блок. Дырыжорам блока быў пасол Ісак Грынбаўм.

Стаіць пасол Грынбаўм у кулуарах Сейма і разважае пра тактыку выбараў Народнага блока. А каля яго разважлівы поп, стары кадэт, сенатар, айцец Дзям'ян, разважлівы нямецкі канонік, пасол, ксёндз Клінке, малады беларускі ксёндз Станкевіч, рабін Аўгуды Левін. З боку ад іх украінскі сацыял-дэмакрат Васынчык, тут жа нямецкі землеўладальнік Наўман, беларускія эсэры, царкоўны дзеяч, сенатар Багдановіч і тры нямецкія сацыялісты.

Пасол Грынбаўм шукае кантакт з левіцай, жадае стварыць блок для супольнай барацьбы з эндэцыяй. Але левіца абмінае "грознага бацькі" блока, а нямецкія паслы і сенатары толькі вывучаюць новы парламент. Пачуваюцца яны тут замежнікамі. Хоць немцы і засядалі ў першым Сейме, але ні з кім не завязалі кантактаў.

Ніхто не ведаў украінскіх паслоў з Валыні. Навічкамі таксама былі беларускія паслы Рагуля, Кахановіч і Ярэміч.

У клапатлівай сітуацыі знаходзіўся сенатар Каспяровіч - чужым пачуваўся тут былы вышэйшы чыноўнік расійскага Міністэрства шляхоў зносін і не ведаў, ці выпадае яму належаць да "нацыянальных меншасцяў".

У гэтай грамадзе добра акліматызаваўся пасол Тарашкевіч. Адразу меў знаёмых, прыяцеляў, сяброў. Яго віталі паслы з левіцы, прадстаўнікі ўраду, афіцэры.

Левіца з першай жа хвіліны паставіла на яго пастку. Лічыўся беларусам, але быў каталікам. Зрэшты, беларуская нацыянальнасць лічылася выдумкай рэвалюцыі 1905 г. (Гэта тыповая думка тагачасных польскіх і сучасных рускіх нацыяналістаў. - *Л. Л.*) Левіца аперывала гэтым тэрмінам толькі для палітычных мэтаў.

Але Тарашкевіча левіца лічыла сваім чалавекам, які выпадкова заблукаў у "блоку" (нацыянальных меншасцяў - *Л. Л.*) Яшчэ ў Пецярбургскім універсітэце ён змагаўся на незалежнасць Польшчы. У Кракаве працаваў рэпетытарам у польскіх дамах, на Віленшчыне вучыў польскай мове дзяцей у зрусіфікаваных дамах землеўладальнікаў.

Яшчэ нядаўна кіраваў ён беларускім рухам супраць Саветаў, меў вольны доступ у Бельведэр, меў трывалая сувязі з Прыстарам (Аляксандр Прыстар, блізкі сябар і паплечнік Пілсудскага, уваходзіў у т. зв. "групу палкоўнікаў", з 1931 па 1933 г. - прэм'ер-міністар Польшчы - *Л. Л.*) Верыў, што толькі Польшча вызваліць Беларусь і займаў пасаду рэферэнта беларускага школьніцтва ў дэпартаменце асветы Сярэдняй Літвы.

Яго вітаюць паслы Касцялкоўскі, Хамінскі. Размаўляе ён з паслом Тугутам. З ім вітаюцца легіянеры Пілсудскага. Але Тарашкевіч на нейкі час пакідае сяброў і сядае за стол з Вызваленнем. Хто ведае? Можа старыя сябры дагэтуль дапамагаюць яму ў барацьбе за аўтаномію, за беларускую школу?

Ён прамаўляе з трыбуны Сейма. Спыняецца і запытвае пра польскі адпаведнік нейкага беларускага слова. Смяецца пасол Хамінскі. Бо Тарашкевіч прытвараецца. Ён ведае польскую мову лепей за ўсіх красовых палякаў.

Аблашчваюць яго вызваленцы, пэпээсаўцы. Свой чалавек. Польскія лозунгі. Дамагаецца федэрацыі Беларусі і Польшчы. Кажа пра беларускую школу, пра зямельную рэформу. Мае праграму-максімум, але гатовы прапанаваць і праграму-мінімум. Гатовы падтрымаць урад Сікорскага, калі той уступіць у справе адкрыцця агульнаадукацыйных школ на беларускай мове. Дамова цалкам магчымая. У кулуарах кажуць, што ён стане дзяржаўным падсакратаром па справах нацыянальных меншасцяў.

Але ўсё хутка змяняецца. Праходзяць мары аб пасадзе дзяржаўнага падсакратара, аб школьніцтве, аб зямельнай рэформе. Падмануў нават стары сябар Касцялкоўскі, абмінуў яго і шэф ураду, былы пасол Тугут, а з беларускай вёскі даходзяць весткі пра тое, што зямля гарыць пад нагамі і не пра школы ўжо трэба думаць.

Увайшоў Тугут ва ўрад Грабскага, а Тарашкевіч пакінуў сцены парламента і пайшоў па сваёй акрузе. Неяк спаткаліся ў кулуарах. Тугут хацеў уцягнуць пасла Тарашкевіча ў парламенцкую камісію як эксперта. Але Тарашкевіч адмовіўся, і на гэтым усе скончылася.

У кулуарах пачалі не пазнаваць Тарашкевіча. Змяніўся нават яго выгляд. Некалі быў бледным, з ружовымі шчокамі і голасам-тэнарам, апранаўся з густам. Зараз пастарэў, голас стаў басам, апранацца пачаў у куртку і боты, сябраваў з крайняй левіцай. Старыя таварышы і сябры дзівіліся таму, як далёка ад іх адышоў пасол Тарашкевіч.

Яны спаткаліся з ім потым, у судовай зале. Тарашкевіч на лаве падсудных за бар'ерам разам з маладымі пасламі Рак-Міхайлоўскім і Мятлой. Яшчэ ўчора меўся стаць дзяржаўным падсакратаром, а сёння на лаве падсудных дэманстратыўна размаўляе па-беларуску. Кіруе грамадой абвінавачаных сялян у ботах і нават у лапцях. Кружыліся ва ўрадзе старыя сябры, жадалі нешта зрабіць для пана Браніслава, але мусілі адступіць. Пайшоў ён ад іх далёка, і ўмяшальніцтва магло іх скампраметаваць.

А ў кулуарах сейма яго месца заняў пасол Ярэміч. Гразіў ценямі Грамады, шукаў паразумення і прасіў за беларускую школу. А беларускія паслы ўсё больш расцярушваліся па свеце. Частка з іх зараз за кратамі ў Менску, а недабіткі яшчэ ў буфеце Сейма.

У трэці Сейм мала хто з іх увайшоў.

*Wspomnienia sprawozdawcy sejmowego o klubie bialoruskim // Preglad Wilenski. 1929, № 14-15. S. 14-15.*

* Ад перакладчыка: артыкул адлюстроўвае тагачасны польскі погляд на дзейнасць беларускіх паслоў у Сейме.

# Беларускі Гандзі

У Сейме папярэдняй кадэнцыі на сябе звяртала ўвагу рухлівая, экспансіўная, смелая асоба. Не раз, нават свае казалі яму, што акрамя вялікіх здольнасцяў і глыбокіх ведаў, ён не мае дакладнай палітычнай праграмы. Каб меў, дык можа не здраджваў бы сваім планам і ўнікаў ад усялякага дагматызму ў палітыцы - але цяжка сказаць, ці гэта так. Аднак, здаецца, ён увесь час стаяў на беларускім грунце і, ідучы да вызначанай мэты, не верыў у магчымасць "прамой дарогі" да яе. Ішоў бакавымі сцежкамі навобмацак. Унікаў ад дэманстрацыі сваёй тактыкі, лічыў, што яна павінна мяняцца ў залежнасці ад кан'юнктуры. А гэта вельмі цяжкі, небяспечны і рызыкоўны шлях. Ён праходзіць удалечыні ад усіх патрыятычных шаблонаў якія выпрацавалі іншыя людзі і якія сталі догмай. Не дзіўна, што разам з іншымі беларусамі ён патрапіў на лаву падсудных 27 лістапада 1932 г.

Бачыў яго на лаве для падсудных у часы працэсу над Грамадой. Гэта быў Тарашкевіч, пра якога калісьці пісала "Газета Варшаўская", Тарашкевіч, які на трыбуне звяртаў на сябе ўвагу як чалавек з манерамі і выглядам еўрапейца. І сёння не можам яму ў гэтым адмовіць, аднак ён моцна змяніўся. Час, вязніца і ўнутранае жыццё зрабілі сваё - рысы выразнага твару заостраліся, і ён выглядае, як аскет. Галава амаль што цалкам страціла валасы, і ў чорных рагавых акулярах ён падобны на Гандзі, партрэт якога мы так часта бачым у часопісах. Можа таму супрацоўнік "Кур'ера Кракаўскага" вольна ці не вольна намаляваў Тарашкевіча ў зале суда больш падобным на Гандзі, чым гэта ёсць на самай справе.

Ён прамаўляе спакойна, доўга, але не нудна. З самой пастаўы, з яго тону б'е думка і ўзнёсласць. У ім няма нічога ад абвінавачанага. Ёсць адчуванне, што яму наогул не цікава, ці будзе ён апраўданы, і яго абаронца наракае, што ён кажа суду "непапулярныя" рэчы. Істотна тое, што называе сябе марксістам, калектывістам, кажа што "што на тым баку мяжы будуецца Беларускі Дом", і гэта ўскладняе задачы абаронцы. Але катэгарычна адмаўляецца ад сяброўства ў камуністычнай партыі. Прызнае, што адмовіўся ад прэзідэнцкай амністыі па справе Грамады, бо яна не датычыла яго калег.

"Тарашкевіч - гэта не беларускі Вашынгтон", - цалкам нечакана кажа пракурор. Гэта думка не была абвергнута з іншага боку, але з выступаў іншых становіцца зразумелай незвычайная роля абвінавачанага. Ствараецца ўражанне, што пракурор ваюе сам з сабой, што ён хоча перамагчы самога сабе, бо усё ж ёсць нешта агульнае з Вашынгтонам у гэтага абвінавачанага, ёсць нешта моцнае, унушальнае, узнёслае.

Адзін з самых маладых беларускіх паэтаў пасля выхаду з турмы у вершы звяртаецца да роднай маці: "Не вучы мяне пакоры - я яе за кратай кінуў". Вельмі часта ўспамінаў я гэты радок падчас суду. Турма па-рознаму ўплывае на псіхіку розных людзей. Калі нехта з-за жадання выйсці на волю ломіцца духоўна і просіць апраўдання ці малога тэрміну пакарання, дык іншы не толькі гэтага не робіць, але дэманструе слушнасць сваіх дзеянняў яшчэ з большым гонарам, чым да суду. У апошніх словах розных беларускіх палітычных вязняў можна было пачуць розныя ноты, але ніколі ноты пакоры.

Тарашкевіча, як і іншых беларускіх паслоў, якіх судзілі ў Вільні, нельга залічыць да першай катэгорыі. Здаецца, турма ўсіх іх загартавала. Пра такіх людзей кажуць, што ў незалежнасці ад вынікаў працэсу, яны выйгралі ў любым выпадку. Можна пагадзіцца з "Кур'ерам Віленскім", што Тарашкевіч выйграў працэс, хоць і атрымаў 8 гадоў турмы.

У выніку, гэты "выйгрыш" не паменшыў тэрмін зняволення, але сутнасць гэтага "выйгрышу" палягае ў тым, што Тарашкевіч ідэю паставіў вышэй асабістай свабоды. Не зламаўся і таму ў вачах сваіх прыхільнікаў, якія бачылі яго шчырасць, значна вырас, як асоба.

З усёй пэўнасцю можна цвердзіць, што Тарашкевіч, нягледзячы на сваю туманную палітычную ідэалогію, зараз цешыцца вялікай папулярнасцю амаль што сярод усіх беларусаў і мае значна болей прыхільнікаў чым іншыя беларускія дзеячы.

У судзе Тарашкевіч быў звольнены ад абвінавачвання ў супольнай працы з камуністамі (насамрэч, Тарашкевіч быў камуністам - *Л. Л.*), але ад гэтага яго палітычнае крэда не стала больш зразумелым. Наадварот, яно стала яшчэ больш невыразным. І гэта таксама паспрыяла яго аўтарытэту сярод беларусаў.

Гэтую з'яву можна тлумачыць наступным чынам. Увага да самых дробных пастулатаў палітычных праграм, якія ў адносінах да галоўнай ідэі вызвалення беларускага народа, з'яўляюцца неістотнымі, выклікаюць барацьбу у розных групах беларусаў. І насамрэч, усе беларусы стаяць на платформе, што ў будучыні Беларусь павінна стаць незалежнай дзяржавай. Гэты пастулат лучыць усіх, але бачанне будучага ўладкавання Беларусі ва ўсіх рознае, і гэта бачанне ломіць адзіны фронт. Здаецца, толькі Тарашкевіч разумеў гэта і таму ў судзе ўхіліўся ад адказу на пытанне пра будучае ўладкаванне Беларусі і казаў, што гэтую будучыню вырашаць самі будучыя беларускія сяляне і рабочыя. Такі падыход трэба лічыць трапным, і ён забяспечвае Тарашкевічу вялікую папулярнасць у беларускіх колах.

Без сумнення, вырак суду не перакрэсліў ролі Тарашкевіча ў беларускім руху, як утрыманне Гандзі ў турме не паменшыла яго ўплыў сярод індусаў. Краты маюць тую уласцівасць, што ўсе ідэі, якія выходзяць з-за кратаў, маюць значна большую сілу, чым ідэі з-за фіранак прыватнай кватэры.

Al. S. [Талочка Ул.] Bialoruski Gandi // Preglad Wilenski. 1933, № 1. S. 5-6.

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***



№ 34 (1497) 26 ЖНІЎНЯ 2020 г. Наша слова

# Свята беларускай паэзіі ў Зачэпічах

Ёсць на Дзятлаўшчыне вёска Зачэпічы, дзе нарадзіліся тры заходнебеларускія паэты Пятрусь Граніт, Гарасім Прамень і Васіль Струмень, якія ў 1920-1930-х гадах друкаваліся на старонках віленскіх выданняў. Чатыры гады таму грамадскія актывісты з Дзятлаўшчыны пад кіраўніцтвам краязнаўца Валерыя Петрыкевіча ўстанавілі ў Зачэпічах камень з мемарыяльнай шыльдай, прысвечанай гэтым паэтам. Тады і было вырашана штогод у Зачэпічах праводзіць свята беларускай паэзіі.

У суботу, 22 жніўня, у Зачэпічах адбылося чацвёртае па ліку свята паэзіі. Пачалося яно не ў Зачэпічах, а ў цэнтры Дзятлава каля помніка вялікага беларускага грамадска-культурнага дзеяча, пісьменніка і педагога Ігната Дварчаніна (1895-1937), якому сёлета споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння. Свята распачалі мясцовыя бібліятэкары і музейныя работнікі, якія арганізавалі выставу, прысвечаную жыццю і дзейнасці Ігната Дварчаніна, выступіў бард з Ліды Сяргей Чарняк, бард і пісьменнік з Навагрудка Міхась Зізюк, спявачкі з Баранавіч Галіна Бабонава і Рэгіна Скіпар.

Пасля адкрыцця свята яго ўдзельнікі наведалі мясцовыя могілкі, дзе ўсклалі кветкі на магілу дзятлаўскага паэта Віктара Шымука (1933-1998). Жонка паэта Марыя Шымук прыгадала свайго мужа і сказала самыя шчырыя словы пра яго, як чалавека, паэта і мужа.

З Дзятлава ўсе ўдзельнікі свята паехалі ў вёску Погіры на радзіму Ігната Дварчаніна. На вясковай вуліцы, якая носіць імя земляка, быў адкрыты мемарыяльны камень, а на панадворку хаты, дзе жыве мастачка Надзея Лукашык, адбыўся працяг свята паэзіі. Арганізатар свята Валерый Петрыкевіч нагадаў пра тое, што там, дзе цяпер знаходзіцца хата Надзеі Лукашык, стаяла некалі хата Ігната Дварчаніна. На хаце ўстаноўлена мемарыяльная шыльда, якая нагадвае пра гэта. На панадворку Надзеі Лукашык гучалі песні ў выкананні мясцовага фальклорнага гурта "Пагіранка", шчыра выступіла пісьменніца Людміла Дзіцэвіч, якая родам з Погіраў.

Да свята беларускай паэзіі быў аб'яўлены конкурс сярод юных мастакоў Дзятлаўшчыны. Валерый Петрыкевіч уручыў пераможцам прэміі і падарункі. Шчырую падзяку атрымала і гаспадыня хаты Надзея Лукашык за спрыянне ў арганізацыі мерапрыемства і за тое, што дапамагала ўстанаўліваць мемарыяльны камень Ігнату Дварчаніну.

А потым удзельнікаў мерапрыемства шчыра віталі Зачэпічы каля мемарыяльнага каменя тром паэтам. Вітанне адбылося пад гімн свята - песню ў выкананні Сяргея Чарняка з Ліды "Зачэпічы".

Добрыя словы ў адрас свята сказалі супрацоўнік Дзятлаўскага райвыканкама Васіль Шыцько, прафесар з Гародні Аляксей Пяткевіч.

У Зачэпічы завіталі з Менска дачка Таццяна і жонка Марыя паэта Віктара Шымука. Таццяна прэзентавала аднатомнік твораў Віктара Шымука "Чалавечая душа - праменьчык сонца", які родныя людзі паэта выдалі за свой кошт. Таццяна Шымук бясплатна перадала кнігі ўсім бібліятэкам і навучальным установам Дзятлаўшчыны, а таксама прачытала вершы бацькі.

У гэты дзень у Зачэпічах гучалі вершы паэткі з Баранавіч Таццяны Яцук, Зоі Кулік з Нясвіжа, Міколы Канановіча са Слоніма, Алы Петрушкевіч з Гародні, Святланы Абдулаевай з Навагрудка і іншых паэтаў. І вершы, і песні ў Зачэпічах ажывілі далёкую і забытую дзятлаўскую вёску, якая адзін раз у год вітае беларускую творчую інтэлігенцыю і прыгадве забытых сваіх літаратараў.

*Сяргей ЧЫГРЫН.*

*Фота аўтара.*
















## Галіна Кірпа



*Галіна Кірпа нарадзілася 1.01.1950 года. Закончыла філалагічны факультэт Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1976 г.). Паэтэса, празаік, перакладчыца, літаратурны рэдактар, сябра Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны (1986 г.). Працавала на выдавецкай і журналісцкай рабоце. Галіна Кірпа перакладала з польскай, беларускай, рускай, нямецкай, шведскай, дацкай, нарвежскай моваў. А яе творы перастораны на албанскую, англійскую, беларускую, польскую, французскую, рускую мовы.*

*Прапаную на агледзіны некалькі гучальных галінак з творчага нажытку Галіны Кірпы ў маім перакладзе.*

***Сяргей Панізьнік.***

**ПАДУМКІ З КЛЁНАМ ЗА ВАКНОМ**

Учора ў клёна за вакном пытаю:
- У цябе, мой дружа, восень пачалася?
І мне спакойна клён апавядае,
гайдаючы лістоту на галінках:
- Трывожыць восень? Гэта паўбяды.
Табе цяжэй - нажытак навісае…*

***Галіна Кірпа.***

**P.S.**

"Нарадзілася" восень-істота?
Не, раджаецца Січэнь з-пад клёна, -
і Галіна - сама ўся лістота
з упрыгожання медальёна!
Не збуцвелі ні травень, ні серпень.
Паўбяды - крутавей лістапада…
У Галіны Кірпы ёсць на гербе
Клён жыцця і Вязьмо перакладу.
…Родны сад - і малітвы ўсе верне,
бо сам клён - вяршавання прынада…

Ну а новыя дні - ў глебе зерне,
у бяз-меж-нас-ці да-ля-гля-ду.

----------

* Верш Галіны ў перакладзе С. Панізьніка.
Січэнь - студзень, серпень-жнівень.

***Галіна Кірпа***

**МОВА МАЯ**

Мова мая, бы дзяўчынка ў вяночку,
полем шыбуе, бяжыць па лужочку,
праз колкія церні ідзе.
Мова мая - нібы птушка крутая,
над пушчай імчыць,
праз гару праляце;
з дзецьмі - і я ў чарадзе.
Мова мая - усіх нас Берагіня,
з моваю Бацькаўшчына не згіне:
стойкай яна ў грамадзе.
Мова мая - як была, так і будзе!
Церні збяру, разняволяцца грудзі
ў смелай, няспыннай хадзе.

*Пераклад з украінскай мовы*

***Сяргей Панізьнік.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 24.08.2020 г. у 17.00. Замова № 1669.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,65 руб., 3 мес.- 7,95 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.